*«Сіл няма такіх, каб нас перадушыць».*

**Алесь Дудар**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. МАНІТОРЫНГ ПАРУШЭННЯЎ КУЛЬТУРНЫХ ПРАВОЎ І ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў ДАЧЫНЕННІ ДА ДЗЕЯЧАЎ КУЛЬТУРЫ. СТУДЗЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ 2021




**Беларускі ПЭН падрыхтаваў чарговы маніторынг парушэнняў культурных правоў і правоў чалавека ў дачыненні да дзеячаў культуры. Гэты дакумент змяшчае статыстыку парушэнняў і падрыхтаваны на падставе абагульнення інфармацыі з адкрытых крыніц, камунікацыі з дзеячамі культуры за перыяд са студзеня па верасень 2021 года.**

# 2. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Над Ігарам Кузняцовым, гісторыкам, адным з найлепшых выкладчыкаў БДУ, аўтарам 120 кніг, у тым ліку падручнікаў і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, 27 кастрычніка адбыўся суд — ён цягнуўся адну хвіліну, справа дасланая на дапрацоўку. У той жа дзень яго звольнілі з БДУ. На навукоўца напісана 17 даносаў за публікацыі і рэпосты ў сацыяльных сетках.**



Архіўнае фота



**Зміцера Шыманскага, музыку, затрыманага 2 жніўня па арт. 342 КК — Арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, асудзілі на тры гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія») па арт 342 КК (арганізацыя і ўдзел у дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак) за гранне на дудзе на маршы 16 жніўня 2020 года.**

**Тэксты і выказванні Уладзіміра Мацкевіча — філосафа, метадолага, сузаснавальніка Лятучага ўніверсітэта, аўтара кніг і публікацый, — адпраўлены на экспертызу для выяўлення прыкметаў, накіраваных на распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, або іншай сацыяльнай варожасці. Уладзіміра затрымалі 4 жніўня, прад'явілі абвінавачанне ў арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак.**





**Арцемія Нікіценку** 28 кастрычніка асудзілі на 15 сутак адміністратыўнага арышту за два белыя бранзалеты на адной руцэ і адзін чырвоны на другой.

**Вадзіма Сарафанава** асудзілі на 15 сутак адміністратыўнага арышту за бел-чырвона-белую стужку, прымацаваную да люстэрка задняга віду ў яго машыне.

**Таццяну Аляшкевіч** асудзілі на 13 сутак адміністратыўнага арышту за тое, што нібыта закідвала бел-чырвона-белыя стужкі на дрэвы.

# 3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

**Уладзімір Гундар, краязнаўца і выдавец, ўтрымліваецца ў Брэсцкім СІЗА з вясны 2020 года. Ён не мае адной нагі, але перадаць пратэз яму не дазволілі, ён карыстаецца мыліцамі. Як і іншых палітвязняў, яго прызналі «схільным да экстрэмізму». У адным з лістоў да жонкі ён піша:**
***«Жыць мне не страшна, жыццё сваё люблю. Страшна не дажыць... Аб гэтым стараюся не думаць».***





**Ігар Банцэр, палітзняволены музыка, якому прысудзілі 1 месяц і 25 дзён калоніі за парушэнне турэмных правілаў, ізноў на «хіміі» — яго адвакатка абскардзіла рашэння суда аб замене пакарання на больш жорсткае.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Што малююць зняволеныя за кратамі.**

**Алесь Пушкін**



**Марыя Каленік**



(калажы Марыі Талстовай / Медыязона)



**Лекцыя пра маляваныя дываны прайшла ў Варшаве.**

**Заняткі**
**Школы беларускай традыцыі**
**прайшлі ў Беластоку.**



«Творчая кухня»
з шорт-лістарамі
прэміі Гедройца 2021
Артурам Клінавым
і Сяргеем Календам.






Гурт «Петля Пристрастия»,
лідар якога Ілля Чарапко-Самахвалаў
атрымаў 15 сутак адміністратыўнага
арышту за ўдзел у маршы ў 2020,
выпусціў новы альбом
«Не тот человек».
З 2020 года гурт не можа атрымаць
гастрольнае пасведчанне
для выступаў у Беларусі.

Ганна Хітрык,
колішняя акторка
Тэатра Янкі Купалы,
музыка, якая разам з сям'ёй
пераехала ў Ізраіль,
прэзентавала новы альбом
«Тень» —
першы пасля пераезду.



Вечар памяці **«Алесь Разанаў: невядомая велічыня»** адбыўся ў літаратурна-філасофскай кавярні ЗНО Беларускага Калегіюма ў анлайнавым фармаце.







Раман «Смерти.нет» **Таццяны Заміроўскай** <u>увайшоў у шорт-ліст</u> расейскай літаратурнай прэміі імя Андрэя Белага ў намінацыі «Проза».

**Артысты Перамогі**: <u>канцэрт</u> **Зісла Сляповіча** з яго студыі ў Нью-Ёрку.



**Еўрарадыё** выпусцілі фільм «**Сем шляхоў**», які распавядае пра лёсы беларусаў, што ў розны час вымушана пакінулі Беларусь, але засталіся з ёй сэрцам і думкамі.






У слонімскім драматычным тэатры — прэм’ера:
спектакль «**Чамаданны настрой**» па п’есе **Ганны Багачовай**.
Ён прысвечаны малодшым і старэйшым школьнікам і іх бацькам.

«Я і ёсць рэвалюцыя» аўтаркі **Юлі Арцёмавай** — новая кніга ад жаночай выдавецкай ініцыятывы «**Пфляўмбаўм**».



Беларусы Уроцлава <u>стварылі</u> дзіцячыя **моўныя курсы**, з мэтай далучыць дзяцей да беларускай нацыянальнай культуры, паглыбіць знаёмства з родным краем, беларускімі традыцыямі і фальклорам.







<u>Абвешчаныя</u> пераможцы прэміі Шэрмана.

**Інтэрактыўны цэнтр жывой гісторыі** — арганізаваны клубам Варгентторн, які яднае дзясяткі аматараў гісторыі розных узростаў і прафесій, — <u>адкрыўся</u> ў Віцебску.






Фота: Euroradio

**Выстава плакатаў Уладзіміра Цэслера адкрылася ў Варшаве.**

**Міжнародная федэрацыя асацыяцый кінапрадзюсараў (FIAPF) пазбавіла кінафестываль «Лістапад» акрэдытацыі.**

FIAPF
ACCREDITATION PROGRAMME
International Film Festivals




**Ва Ўкраіне стварылі вялікі медыяпраект памяці расстраляных у 30-я гады беларускіх і ўкраінскіх паэтаў.**

Гурт Pomidor/OFF выдаў новы сінгл «Развітанне з Радзімай» да «Ночы расстраляных паэтаў».






Вік Торр [Rostany] і Naka — «Магутны Божа».

Анімацыя Юліі Рудзіцкай.

На Сусветным Кангрэсе Беларусаў на розных дыскусійных панэлях сярод іншага абмяркоўвалі пытанні, датычныя беларускай культуры.

1937

Аўтар: Skroz Zmrok







Анлайн канцэрт
Вольнага Хора
«Не)РАССТРАЛЯНЫЯ».

Вольга Якубоўская,
«Ноч расстраляных паэтаў»






**«Ноч паэтаў» прайшла ў дзясятках гарадоў па ўсім свеце.**
**У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ва ўрочышчы Курапаты былі расстраляныя больш за 130 беларускіх дзяржаўных і культурных дзеячаў, сярод іх 22 літаратары.**
**Кожны год у гэты дзень у памяць пра загінулых творцаў у Курапатах праводзілася акцыя пад сімвалічнай назвай «Ноч расстраляных паэтаў», якую сёлета немагчыма было правесці праз небяспеку арыштаў.**













# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Наталля Лявонава, звольненая акторка Гродненскага абласнога драматычнага тэатра, якая вымушана пакінула краіну:**

***«Вельмі хочацца дадому, плачу кожны дзень. Боль вар'яцкі менавіта за Беларусь, бо тут шмат добрых людзей, выдатны горад, але там бацькі, сябры, мая Радзіма, мой дом, там усё. У нейкі момант я разумею, што там Беларусь у сабе яшчэ складаней захаваць, чым тут, вось такая парадаксальная штука. Там ты павінен жыць у акупацыі і прытрымлівацца рэжыму альбо знаходзіцца ў турме. Я нават гляджу, як многія беларусы перастаюць спрабаваць нешта рабіць і кажуць, што хочуць проста жыць шчасліва. Я нікога не абвінавачваю. Але для сябе вырашыла, што змагу жыць і быць сабой толькі тады, калі не перагарну гэтай старонкі і буду пастаянна хоць нешта рабіць. Я не забуду, я буду жыць з тым, з чым я прыехала».***

**Анжаліка Крашэўская, экс-дырэктарка Цэнтра візуальных і выканаўчых маствацтваў Art Corporation у вялікім матэр'яле, які паказвае ролю Цэнтра, асабліва праектаў Міжнародны фестываль «Лістапад» і Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТеАрт», у развіцці беларускай культуры і фармаванні грамадзянскай супольнасці:**



***«Пра які прафесіяналізм у сферы культуры можа весціся? Калі ў нас думаюць не пра якасць, а пра колькасць мерапрыемстваў, калі прафесіяналізм замяняецца лаяльнасцю. Калі на працягу ўжо стольких гадоў у нас няма ні культурнай палітыкі, ні стратэгіі».***



**Сяргей Будкін, ініцыятар і мэнэджар шматлікіх культурных праектаў і праграм у Беларусі. Ініцыятар Фонда культурнай салідарнасці — цяпер Беларускай рады культуры:**

***«Медыя маглі б выступаць як умоўны калектыўны псіхатэрапеўт. Не проста паведамляць, але і ставіць пытанні, прымушаць разважляць. У сувязі з сучаснымі рэпрэсіямі будзе цікава дыскусія на тэму ахвяры і ка́та, як нам з імі быць».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



Фота: facebook.com/EUinBelarus

**Дыпламаты Еўрасаюза, Вялікабрытаніі, ЗША і Швейцарыі 29 кастрычніка наведалі Курапаты. Яны традыцыйна гэта робяць напярэдадні Дзядоў, «каб згадаць пра незлічоныя жыцці і таленты, знішчаныя пошасцю таталітарызму».**



**У Шведскай асацыяцыі пісьменнікаў прайшла адукацыйная гутарка пра сітуацыю ў Беларусі з удзелам Дзмітрыя Плакса — беларускага паэта, празаіка, перакладчыка і журналіста і Мікаэля Нюдаля, перакладчыка і выдаўца; мадэравала гутарку Інга-Ліна Ліндквіст, паэтка, пісьменніца, літаратурны крытык.**

# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**Па стану на 26 кастрычніка ў Беларусі 833 чалавекі прызнаныя палітычнымі зняволенымі, іх колькасць па-ранейшаму працягвае павялічвацца. Гэта, безумоўна, сведчыць пра тое, што ціск і рэпрэсіі з боку ўладаў не толькі не спыняюцца, але і набіраюць моц.**

**Беларускі ПЭН як аб'яднанне літаратараў асабліва заклапочаны лёсам дзеячаў культуры, якія несправядліва апынуліся за кратамі. У лістападзе 5 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Антон Шніп, музыка (1 лістапада); Кацярына Андрэева, журналістка, пісьменніца (2 лістапада); Віктар Бабарыка, мецэнат (9 лістапада); Ігар Ярмолаў, танцор (15 лістапада) і Максім Крук, сцэнограф (16 лістапада). Давайце павіншуем разам!**

**Адрасы для лістоў:**

**Антону Шніпу і Максіму Круку – СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**

**Кацярыне Андрэевай – ПК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3;**

**Віктару Бабарыку – ПК №1. 211440, г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8;**

**Ігару Ярмолаву – ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8;**

